Год I. Студзень 1932. № 1.

# ДАЗЛУЧЭНЬНЯ!



Ты ѐси Пётръ,
и на сѐмъ ка́мени созижду цѐрковь мою. Мата 16. 18.

## Беларуская рэлігійная часопісь.

АЛЬБЭРТЫН.
Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

З Ь М Е С Т № 1.



# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на паўгода . . . . 2. зл.
„ год . . . . . 3. 50.
Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka 58.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 6.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопіс.

Альбэртын. Студзень. 1932 г. № 1.

*У імя Божае!*



*Хрыстос валадарыць.*
*Хрыстос перамагае.*
*Хрыстос загадывае.*

# Ад Рэдакцыі.

Приступаючы да выдаваньня гэтае нашае часопісі, мэту нашу замыкаем у адно слова: „Да Злучэньня!“ Да злучэньня мы клічам усіх Беларусаў, сыноў-дачок аднае нашае бацькаўшчыны, разьбітых на часткі ў найбольш чуткім мейсцы свае душы, у сазнаньні свае рэлігійнае прыналежнасьці.

Ісус Хрыстос, па апошняй сваёй вячэры, у апошняй мове да вучняў сваіх выявіў як тэстамэнт сваё пажаданьне, каб усе былі адно, каб ня было паміж імі розьніцы: „Да вси едино будутъ: якоже Ты, Отче, во мнѣ, и азъ въ Тебѣ, да и тіи въ насъ едино будутъ“ (Іо. 17, 21). Вось, браты Беларусы, гэтыя словы і пажаданьні Ісуса Хрыста, Яго Боскага Сэрца, каб усе былі адно, гэта найвялікшае і найглыбейшае пажаданьне, якое выявіў Хрыстос ідучы на мукі і крыжовую сваю сьмерць.

Хто-ж можа сказаць, што непатрэбна еднасьць, што добра і так, хай жыве кожны пасвойму? Хто скажа, што невялікая бяда, калі хрысьціяне, вучні Ісуса Хрыста разьбіліся на варожыя да сябе групы, на розныя Цэрквы?

Не, так быць не павінна. Пажаданьне Хрыстова мусіць быць споўнена, паміж хрысьціянамі мусіць быць еднасьць. Мы павінны ймкнуцца да таго, каб усіх нас хрысьціян супольная любоў злучыла ў адну сям'ю.

Наша Сьвятая Цэрква ў Мірнай эктеніі моліцца „О мирѣ всего міра, благосостояніи святыхъ Божіихъ церквей и соединеніи всѣхъ, Господу помолимся!“. Гэта царкоўная і ўсіх нас малітва ня будзе аднак шчырай, калі мы сапраўды, на дзеле, ня будзем старацца, каб настала злучэньне ўсіх хрысьціян.

Пашыраньне гэтай думкі і пажаданьня Ісуса Хрыста, сярод нашых братоў Беларусаў, ёсьць галоўнаю мэтаю нашае часопісі „Да Злучэньня!“.

Разам з злучэньнем рэлігійным хутчэй наступіць у Беларусаў і чаканая лучнасьць грамадзкая, як дадатак, бо сам Хрыстос гэта запэўніў кажучы: „Шукайце насамперш Каралеўства Божага і Ягонай справядлівасьці, а ўся рэшта дадасца вам“.

Няма ў Беларусаў еднасьці рэлігійнай, няма гэтай еднасьці і грамадзкай і гэта ёсьць найвялікшае няшчасьце для народу.

Мы Беларусы часта ўмеем наракаць на нашых крыўдзіцеляў і гэта выяўляецца ў творах нашых пісьменьнікаў, паэтаў. Праўда, што іншыя мацнейшыя за нас народы, былі няраз да нас несправядлівымі. Але праўда таксама і тое,

што ня мала вінаватыя ў гэтым і мы, бо ня маючы лучнасьці народнае, ня маем самага галоўнага, што другіх змушае нас шанаваць і з намі рахавацца, ня маем свае народнае сілы.

Нас Беларусаў ёсьць 10 міль., мы вялікі народ, — нават пад Польшчай нас больш як два мільёны. Але што з таго, што нас многа, калі мы ня злучаны ў адно цэлае...

Возьмем для прыкладу хоць-бы такіх Караімаў, якіх на цэлым сьвеце налічаюць усяго каля 22 тысяч, з якіх у Польшчы ёсьць усяго каля 1500 душ. Аднак з імі людзі рахуюцца, бо яны — Караімы праз сваю рэлігійную лучнасьць, маюць і лучнасьць народна-грамадзкую. А гэта дадае ім сілы ўнутры і павагі ад людзей увонках. На інгрэсе іхнага гахана (як-бы караімскага епіскапа) ў верасьні м-цы 1928 г. у Вільні быў прысутны нават тагочасны ваявода Рачкевіч і іншыя прадстаўнікі адміністрацыйнай улады.

А дзе-ж падобнае прызнаньне для лічэбнасьці і сілы Беларускага народу, якога ў самай толькі сучаснай Польшчы налічваецца не паўтары тысячы душ — як Караімаў, — а больш двух мільёнаў? Няма гэтага і ня будзе так доўга, як доўга не наступіць у Беларусаў лучнасьць насамперш рэлігійна-духовая, а пасьля і народна-грамадзкая.

Наша часопісь рэлігійная і мэтай нашай ёсьць справа рэлігійнага злучэньня Беларускага народу.

Наш Беларускі народ у справах рэлігіі падзелены на дзьве часткі: праз нясьведамасьць адны сябе залічаюць да польскай веры, а другія — да рускай. Дзеля гэтага першыя сябе лічуць Палякамі. а другія — Рускімі. Хай-жа Беларус ведае, што няма ані польскай, ані рускай веры, хай не мяшае народнасьці з рэлігіяй. Ці Беларус праваслаўны, ці каталік, ён заўсёды астаецца сынам аднае бацькаўшчыны Беларусі, ён заўсёды Беларус.

Пэўне, можна вызнаваць розныя рэлігіі і міма тое аднак станавіць адно цэлае ў сэнсе народнасьці. Гэта праўда, але кожны таксама мусіць прызнаць, што рознасьць веры аднак ня спрыяе да лучнасьці ў адно цэлае ўсяго народу, а наадварот — вельмі перашкаджае. Хто шчыра імкнецца да лучнасьці і праз лучнасьць да магутнасьці сваей бацькаўшчыны, свайго народу, той мусіць таксама прызнаць, што вельмі пажаданай ёсьць лучнасьць рэлігійная.

Хто-ж нас можа злучыць, да якога злучэньня мы імкнёмся?

Злучыць нас можа ў адну сям'ю толькі Ісус Хрыстос, калі пойдзем за Ім, калі будзем дзеля Яго ўсіх любіць, калі будзем належаць да Яго Сьвятой адзінай, сусьветнай і апостальскай Цэрквы. Вось браты Беларусы і м э т а, да якой вядзе наша часопісь: „Да Злучэньня“.

Ніхто ня скажа, што Хрыстос аснаваў некалькі цэрк-

ваў, а як ведама з сьв. Евангелія, абяцаў аснаваць і аснаваў толькі адну Цэркву: „і на гэтым камені збудую Цэркву маю“ (Мат. 16, 18).

Якую-ж Цэркву Хрыстос аснаваў, бо мы бачым сяньня многа цэркваў і кожная з іх хоча называецца Цэрквай Хрыстовай?

Тая Хрыстовая Цэрква ёсьць праўдзівай, каторая трымаецца фундаманту, на якім аснаваў яе Хрыстос. Калі-ж каторая небудзь цэрква ад гэтага фундаманту адарвалася, дык ясна, што яна праўдзівай пасьля гэтага быць ня можа.

Які-ж гэта фундамант? Аб гэтым фундаманце ведаем з Сьв. Пісаньня. У *Мат. 16, 16-18* мы чытаем, што на Сьв. Пётры, як на моцным фундаманце, Хрыстос абяцаў стварыць сваю Цэркву і пэўне, што сваё абяцаньне споўніў.

Фундамантам у кожным грамадзянстве, у кожнай дзяржаве ёсьць улада. Найвышэйшая ўлада ў Цэркве Хрыстовай, як ведаем з Сьв. Пісаньня, ад самага пачатку пасьля Ўшэсьця Хрыстовага, была ў руках Сьв. Пётры. Сьв. Пётра памёр, але яго ўлада не памёрла і будзе жыць так доўга, як доўга будзе існаваць Цэрква Хрыстова: аж да канца сьвету.

Да каго-ж гэта ўлада перайшла? Перайшла яна да тых епіскапаў, якія займалі мейсца Сьв. Пётры пасьля ягонай сьмерці. Сьв. Пётра быў епіскапам рымскім і дзеля гэтага і па сяньняшні дзень рымскія епіскапы маюць найвышэйшую ўладу ў Цэркве Хрыстовай. Хто ня хоча сяньня прызнаваць гэтай улады ў наступніку Сьв. Пётры, той адходзіць ад адзінай і праўдзівай Хрыстовай Цэрквы.

І на нашай зямельцы Беларусі, гдзе калісь была адна вера і адна Цэрква, паўсталі розныя цэрквы, бо і ў нас знайшліся людзі, якія адмовілі ў паслухмянасьці ў справах веры наступніку Сьв. Пётры, рымскаму епіскапу. Шмат Беларусоў адарвалі расейскія цары ад адзінай Хрыстовай усесьветнай Цэрквы. Аб тым, як расейскія цары і іх прыслужнікі глуміліся над нашым Беларускім народам, накідаючы яму сілком сынодальнае праваслаўе, расказывалі нам да апошніх дзён навочныя сьведкі.

Стойкасьць-жа Беларуса ў веры хараша апісаў Фр. Багушэвіч у сваей бязсьмертнай „Дудцы“.

Што перанёс за сваю веру наш беларускі мужык, — адзін Бог толькі ведае! Варожая сіла і час аднак сваё зрабілі: большая частка нашага Беларускага народу была адлучана ад веры бацькоў, а разам з верай — і ад свайго народу, як цэласьці, ад свае бацькаўшчыны.

За часоў царскай улады над Беларусяй, немагчыма было вясьці барацьбу проціў несправядлівасьці і фальшу. Сяголньня мы маем сякую-такую магчымасьць казаць народу

праўду, клікаць яго да веры бацькоў, да рэлігійнага злучэньня.

Дзякаваць Богу, пачатак ужо зроблены: маем ужо, разам з Украінцамі на Валыні, свайго эпіскапа, Ўладыку Мікалая, заложана ў Дубне духоўнаю сэмінарыя, маем ужо некалькі дзесяткаў сьвяшчэньнікаў і больш 30 тысяч верных. Гэтых апошніх было-б значна больш, калі-б мы мелі больш сьвяшчэньнікаў. Новаадчыненая сэмінарыя, дасьць Бог, гэты недастатак запоўніць і працу прысьпешыць.

Але няпрыхільнікі сьвятой справы нашага рэлігійнага злучэньня таксама ня сьпяць, не шкадуюць грошай, ані працы, бо чуюць небясьпеку. Яны стараюцца ўсякім спосабам перашкодзіць у нашай рабоце.

Мы аднак, маючы на ўвазе словы Хрыста: „Ідзеце і вучэце ўсе народы“, ідзем наперад.

Вось, браты Беларусы, дзеля таго, каб служыць гэтай сьвятой справе, справе нашай рэлігійнай еднасьці і каб бараніць яе ад напасьцяў нашых няпрыхільнікаў, мы і закладаем нашу часопісь „Да Злучэньня“, ды заклікаем усіх людзей добрай волі да Сьвятога Апостальства ў гэтым-жа кірунку.

*Рэдакцыя.*

---

## *У калядную ночку...*

*У калядну' цёмну' ночку*
*Перамена наступіла,*
*З беднай ўбогенькай стаенкі*
*Паплыло нам шчасьце, сіла...*

*Вось маленечкія ручкі*
*Нас з вастрогу вырываюць,*
*Самі — чуць падняцца могуць -*
*Нас ад пекла выбаўляюць.*

*О Дзіцятачка сьвятое,*
*Дай, каб мы Цябе кахалі,*
*Каб ідучы за Табою*
*У неба яснае папалі!*

*с. Т. Б.*

---

# Як ажыцьцёвіць ідэю Уніі?

Ідэю Уніі ажыцьцёвіць можна толькі любоўю Хрыстовай. А дзе шукаць тае любові? Яе знойдзем у цёплым хрысьціянскім сэрцы.

Чалавек найбольш цэніць сваё жыцьцё і найгарачэй жадае ягонага развою ў меру сіл і магчымасьці. Жыцьцё гэнае ёсьць ня толькі асабістае, але і грамадзкае, ня толькі фізычнае, але так-жа і маральнае. Хрыстос, што прышоў на сьвет, а прышоў дзеля найважнейшай людзкой справы, тое-ж іменна і кажа: „каб (людзі) жыцьцё мелі, ды больш яшчэ яго мелі“. Вось чаму ўсякая хрысьціянская ідэя, як тая, што мае для нас характар жыцьцёвы, павінна знайсьці ў душы нашай найбольшую пашану, найвялікшую ацэну; калі чалавек цэніць жыцьцё сваё, дык цаніць мусіць адначасна і ўсё тое, што жывым нэрвам злучаецца з ім.

Хрысьціянскае жыцьцё, як ужо сама назова кажа, творыцца ў сэрцы людзкім і разьвіваецца Хрыстом. Будучы „человѣколюбецъ“ Хрыстос, цеплатой Сэрца свайго, сваей боскай любоўю ажыўляе нашу істоту павевам зусім новага жыцьця, каторае затым і дыхае ўсёцэла сьвежай звышпрыроднай энэргіяй. Хто гэтага не разумее, або мала верыць, каму хрысьціянскае жыцьцё — толькі сухая форма, той няхай лепш не бярэцца зусім за справу царкоўнай Уніі. Ён справу гэту толькі сапсуе, а не наладзіць. Трэба цьвёрда помніць тое, што Унія царкоўная ёсьць іменна жыцьцёвай праявою душы хрысьціянскай.

Любоў Хрыстова, разьвіваючы ў нас божае жыцьцё, імкнецца да таго, каб злучыць пад сабой усіх людзей цэлага сьвету. Гэтае злучэньне становіць адну вялікую сям'ю — Цэркву Хрыстовую.

Маем перад сабой вялікія абшары паганскага сьвету і любоў Хрыстова нагліць, прымушае хрысьціянскае сэрца йсьці туды. Ідуць місыянары і пашыраюць там хрысьціянства з дня-на-дзень.

Глядзім так-жа на шырокія разлогі праваслаўнага сьвету і любоў Хрыстова ўкладае ў хрысьціянскае сэрца вялікае заданьне Уніі царкоўнай. Толькі Унія прадстаўляецца тут нам ужо не як факт існуючай еднасьці арганізаванага хрысьціянскага жыцьця, а, на-жаль, як патрэба, балючая патрэба злучэньня разьдзёртага, разарванага жыцьця царкоўнага.

Адкуль-жа такое няшчасьце, што было прычынай разьдзелу, разрыву жывой царкоўнай еднасьці? Як еднасьць творыцца любоўю, так разьдзел вынікае з прычыны адсутнасьці гэтае любові. Добра было сыну ў бацькавай хаце, любоў сямейная ў адно злучала ўсе іхнія думкі і пажаданьні: аж не, — хачу, заяўляе сын, жыць самастойна, сямей-

ная любоў мне больш не да ўспадобы. — І гэтак, бачым, адпадае ён ад цёплага сямейнага сэрца. Добры бацька аднак не перастаў думаць аб сваім сынку, ягонае сэрца білася ўсьцяж жывым пажаданьнем прыняць ізноў да еднасьці, да згоды блуднае сваё дзіця. І тая еднасьць навязалася, але дзякуючы толькі таму, што сямейная любоў аджыла йзноў у сэрцы адпаўшага сына і вярнуўся назад ён да добрага свайго бацькі. Цяжка было варочацца, гэтулькі ўжо ўсялякіх перашкодаў загарадзіла паваротную дарогу, але не — любоў крапчэйшая за ўсё: за страх, за стыд! Любоў людзкога сэрца даканала ажыўленьня: еднасьць прарваная ўзноў навязалася.

На хрысьціянскае сэрца Ўсходу павеела іншым духам і пачало яно стыгнуць, аж урэшце дайшло да разьдзелу з Рымам. Што-ж такое быў той „іншы дух“? Як даканаў ён таго няшчаснага разрыву? Дух гэны, што студзіць цёплае хрысьціянскае сэрца — гэта людзкое самалюбства, дух сьвету. Царква ўсходняя сказала: хачу жыць незалежна, самастойна, не хачу прызнаваць над сабой ніякай павагі вышэйшай! Не пакланюся... над зоры ўзьнясуся...! Прагавітасьць гэтага сьвету паказала ёй іншую дарогу, пашла шукаць сабе шчасьця, свабоды, а знайшла няволю і паніжэньне. Бо дзе Дух — там свабода, а дзе „зямля“, там няволя. Адлучаючыся ад Рыму, усходняя Цэрква замкнулася ў сябе, а сьвецкая бізантыйская палітыка дала ёй пячаць сваю ўласную: робіцца рэлігіяй нацыянальнай і служыць інтарэсам улады сьвецкай, дзяржаўнай. Не магла далей быць царкоўная еднасьць, бо не адзін той сам дух ажыўляў Ўсход і Захад. Рым, як той добры бацька, астаўся з цёплым сваім сэрцам і з гарачым пажаданьнем хрысьціянскай еднасьці, а Ўсход, на-жаль, стаў жыць ласкай сільных гэтага сьвету. Разумеецца, дух дзяржавы і дух Цэрквы гэта далёка не адно, ня тое самае. Вось дзе граніцы разьдзелу і глыбокая пропасьць і адначасна поле да паразумленьня, узаемнай згоды і еднасьці супольнага жыцьця.

І няўжо-ж Усходняя Цэрква не адчувала ніколі патрэбы злучэньня? Адчуваць мо' і адчувала, але голасу свайго ня мела, бо была залежнай ад дзяржавы, каторай служыла. Урэшце голас гэны ня мог быць моцны, калі жыцьцё яе праймаў той-жа дух сьвецкі, дзяржаўны.

У Флёрэнцыі (1439 г.) завязывалася еднасьць, тварылася Унія, але над ею насіўся дух іменна гэтага сьвету, інтэрас палітычны Палеолёга, цара грэцкага. Такая унія, разумеецца, як вынік палітыкі, Унія ня з вымогі жыцьця хрысьціянскага, доўга трываць не магла.

У Берасьці (1596 г.) завязывалася Унія на землях беларуска-украінскіх, але гэтай уніяй замнога цікавіўся польскі

кароль Жыгімонт III. Быў гэта твор палавічны, бо адначасна і з духа палітычнага.

На-жаль, як часта і сягоньня Унія трактуецца з пункту гледжаньня земскіх толькі інтарэсаў палітычных. Але такі твор ня будзе злучаны жывым нэрвам з жыцьцём хрысьціянскім. Ён на сабе будзе насіць пячаць дачаснага факту і долю ягонай зьменнасьці. Разумеецца, што Унія, як справа Божая, сьвятая, карысна адаб'ецца на палітычных, нацыянальных інтарэсах дзяржавы і народу; але не дзеля гэтага шукаць і тварыць яе трэба. Інтарэсы гэныя ёсьць заўсёды вечным вонкавым у справе Уніі. Унія выклікаецца самым унутраным жыцьцём цёплага хрысьціянскага сэрца, а пабуджаная з надворку, жыцьцёвага імпэту ніколі ня зловіць. „Шукайце прадусім царства Божага (жыцьця сьвятога хрысьціянскага), а ўсё рэшта дадасца вам“, дадасца вам дабрабыт — і палітычны і нацыянальны.

Тое, што разьдзел выклікала, тое яго і падтрымлівае, тое і цяпер служыць перашкодай да злучэньня. Сяньня на землях беларуска-украінскіх палітыка ані грэцкая, ані маскоўская ў нас больш ня існуе, а ўсё-ж дыкі ўплывы яе ўсьпелі глыбока праесьці душу нашых народаў і яны цяпер бароняцца ад Уніі іменна дзеля чужых застарэлых палітычных інтарэсаў, каторымі аскарупела іхняе жыцьцё. Ня дзеля спорных пунктаў веры, абраду, ня дзеля абароны праваслаўя, як такога, але дзеля тае вонкавай скарупы, скарупы як бы прыросшай да народнага жыцьця, адказваюцца яны сягоньня ад Уніі. І сапраўды, з чыстай беларускай душой, вызваленай зусім ад уплыву маскоўскага, куды лягчэй гаварыць аб Уніі, чымся з людзьмі старога пагляду царскага, пагляду шкоднага шчыраму хрысьціянскаму жыцьцю.

Вызваліць тады трэба душу беларускага народу з усяго, што затрымлівае ў ёй развой жыцьця хрысьціянскага. І калі ідэя, кліч Уніі ўпадзе на чыстае сэрца, сагрэтае Хрыстовай любоўю, адазвуцца ў ім дрэмлючыя сілы і ўздыхне яно тады жывым пажаданьнем хрысьціянскай еднасьці. Унія гэткая будзе творам жывым, вырасшым з цёплага хрысьціянскага сэрца: будзе тым, чым быць павінна.

*а. Я. Рэшэць.*



# „У якой веры радзіўся, у такой буду й паміраць.“

Падумайма крыху ці і на колькі праўдзівы гэты сказ.

Ён можа быць зусім праўдзівы, калі хто радзіўся ў праўдзівай рэлігіі і праканаты шчыра, што ягоная рэлігія сапраўды Божая і вядзе да Бога.

Больш яшчэ скажу: калі нехта нават і не ў праўдзівай Хрыстовай рэлігіі радзіўся, а глыбака праканаты, што яна праўдзівая і сумленьне яму не пазваляе яе перамяніць на іншую, той мусіць трымацца сваей рэлігіі.

Не заўсёды аднак тыя, што гавораць „у якой веры радзіўся, у такой буду й паміраць“, маюць праканаьне аб праўдзівасьці сваей рэлігіі. Яшчэ горш стаіць справа з тымі, якія кажуць, што ўсе рэлігіі аднолькава добрыя.

Рэлігіі можна падзяліць на дзьве групы:

1) рэлігіі, якія прызнаюць шмат багоў і

2) рэлігіі, якія прызнаюць толькі аднаго Бога.

І на нашай зямліцы, каля тысячы гадоў таму назад, нашыя продкі былі паганцамі, мелі многа розных багоў. Ці-ж можна наракаць на тых хоць-бы нашых продкаў, каторыя перамянілі тую рэлігію, у каторай радзіліся, рэлігію паганскую, на рэлігію хрысьціянскую? Ці-ж кепска зрабіў у Кіеве Сьв. Князь Уладзімер, які прыняў хрысьціянскую рэлігію і стараўся сваіх падданых да гэтай праўдзіва божай рэлігіі навярнуць? Калі-б ён і яму падобныя нашыя продкі трымаліся сказу: у якой веры радзіўся ў такой і трэба ўміраць, дык напэўна, замест праўдзівага Бога, мы кланяліся-б яшчэ і цяпер карове, або цялушцы, як Богу.

Таксама розныя ёсьць рэлігіі, якія прызнаюць адзінага Бога. Сюды належаць магамэтане, жыды і хрысьціяне. Хоць усе яны прызнаюць аднаго Бога, але ня можна сказаць, што ўсе гэтыя рэлігіі роўныя. Ніхто ня можа сказаць, што ўсё роўна, ці жыдоўская рэлігія, ці хрысьціянская. Хрысьціяне прызнаюць Госпада Бога Адзінага ў Сьв. Тройцы, пачытаюць Ісуса Хрыста як Бога, а жыды Ісуса Хрыста за Бога не прызнаюць.

Пэўне, мо' скажаце, паганская рэлігія, ці жыдоўская, гэта ня ўсё роўна, ня можна іх раўняць з рэлігіяй хрысьціянскай: толькі хрысьціянская рэлігія ёсьць рэлігіяй Божай, праўдзівай.

Хто на гэта згадзіўся-б, той гэтым самым ужо згаджаецца і на тое, што ня мае значэньня папярэдні сказ: „хто ў якой рэлігіі радзіўся, у тэй павінен і паміраць“. Калі-б гэты апошні сказ быў праўдзівы, дык ня было-б зусім і хрысьціянства, бо ўсе Апосталы былі спачатку жыдоўскай рэлігіі

Ці-ж можна сказаць, што і Апосталы нядобра зрабілі, калі вырakліся жыдоўскае рэлігіі, прынялі хрысьціянства, распаўсюджывалі яго і за яго-ж аддалі сваё жыцьцё?

Хрыстос аснаваў, як ведаем, толькі адну рэлігію, а цяпер мы бачым некалькі рэлігіяў, якія называюцца хрысьціянскімі. Найважнейшыя з іх — тры:

каталіцкая,
праваслаўная і
пратэстанская.

Вось можа некаторым здаецца, што прынамся хрысьціянскія рэлігіі ўсё роўныя сабе.

Не, гэтага быць ня можа, ня можа быць чорнае і белае тое самае, ня можа праўда і няпраўда аднолькава цаніцца.

Паміж хрысьціянскімі рэлігіямі ёсьць шмат вельмі важных розьніц. Напрыклад: пратэстанты вучаць, што няма ў Сьв. Літургіі перамены (прэсушчаствленьня) хлеба й віна ў Цела і Кроў Госпада Ісуса Хрыста, няма Сьвятых Дароў, а каталікі і праваслаўныя прызнаюць гэту перамену і пакланяюцца Сьвятым Дарам, як Самому Госпаду Богу. Ёсьць і другія, таксама важныя розьніцы. Дзеля гэтага ня можна сказаць, што хрысьцінскія рэлігіі ўсе роўныя сабе і аднолькава праўдзівыя.

Таксама і паміж нязлучанымі праваслаўнымі і каталікамі ёсьць розьніцы: сябры сусьветнай, або йнакш — каталіцкай Цэрквы прызнаюць апрача нявідочнага галавы Цэрквы Ісуса Хрыста, яшчэ відочнага тутака на зямлі Яго-нага заступніка, а нязлучаныя праваслаўныя кажуць „нам ня трэба ніякай відочнай галавы, мы і без галавы абойдземся". Гэта так гавораць, а ў запраўднасьці, замест аднае галавы, маюць некалькі. Кожны патрыярх, а цяпер некаторыя аўтокефальныя, г. знача самагаловыя епіскапы маюць права незалежна ўпраўляць сваёй Цэрквай. Можа каму здаецца, што рэч няважная, можа быць і больш незалежных кіраўнікоў Цэрквы, замест аднаго. Аднак-жа гэта розьніца немалая. Як у кожнай дзяржаве ўпраўляе адзін прэзыдэнт ці кароль, як нават і на малой гаспадарцы ўпраўляе адзін гаспадар, таксама і няпрызнаваньне аднае галавы ў Цэркве разьбівае хрысьціян на асобныя групы.

Таксама і ў навуцы веры ёсьць не адна розьніца: напрыклад каталікі і таксама злучаныя праваслаўныя, або як іх называюць—уніяты вучаць, што Прасьвятая Дзева Зачата Беспарочна, а нязлучаная праваслаўная Цэрква (народ праваслаўны йнакш верыць) вучыць, што Багародзіца зачата парочна, гэта знача з грахом первародным („Слово" № 26-31 г.). Гэта ня ўсё роўна, ці так ці йнакш, дзеля гэтага і рэлігіі не аднолькавыя.

Праўдзівая, божая вера можа быць толькі адна, як ёсьць адна праўда і адзін Бог. Калі хто глыбака перакананы, што ягоная вера ў якой радзіўся — не праўдзівая, той мае абавязак перамяніць сваю веру на праўдзівую, таксама як маем абавязак сьціраваца на другую дарогу, калі гэта, па якой ідзём, не вядзе нас да мэты нашай падарожы.

Ня ўсе дарогі добрыя, таксама ня ўсе рэлігіі вядуць да Бога.

Ісус Хрыстос даў наказ сваім вучням: „Ідзеце і вучэце ўсе народы"... (Мат. 28, 19). Пэўне, ня мелі-б гэтыя словы ніякага значэньня, і дарэмна Апосталы вучылі-б, калі-б кожны чалавек мусіў уміраць у той веры, у якой радзіўся. Самыя нарадзіны аб праўдзівасьці рэлігіі ня могуць яшчэ сьведчыць. Дзеля гэтага не канешна чалавеку ў такой веры паміраць у якой ён радзіўся.

*а. А. Неманцэвіч.*

---

# Наш адказ.

Галоўнай нашай задачай ёсьць пазытыўна выясьняць навуку Хрыста і Ягонай Сьв. Цэрквы. Але мы ня можам таксама не бараніць гэтую навуку ад розных напасьцяў і фальшывага тлумачэньня.

Процiў нас і нашай рабоце вядзе барацьбу Варшаўскае „Слово"; вельмі толькі шкода, што часта піша яно зьневажальна і з злосьцю. Мы пастараемся бараніць свае справы з хрысьціянскай любоўю да нашых няпрыхільнікаў, ня хочачы нікога абразіць.

Немагчыма за адзін раз, у адным нумары часопісі адказаць на ўсе закіды, якія нам зрабілі ворагі рэлігійнага аб'яднаньня, асабліва — у „Слове". Адкажу на галоўны іхны закід, каторы спатыкаецца амаль у кожным нумары. Гэты закід датычыцца відавочнага Галавы Хрыстовай Цэрквы.

Возьмем напрыклад „Слово" № 19 — 31 г.: „І людзі ўпалі ў страшэньнейшы звод, і замест Адзінай Галавы Царквы — Ісуса Хрыста, паставілі над Царквою відавочнага Галаву ў асобе грэшнага чалавека, назваўшы яго „заступнікам" Хрыста („Vicarius Christi Dei")"... Далей гаворыцца: „Хто-ж зрабіў гэту замену, як ня Рым?".

Гэтую-ж думку паўтарае — хоць троха далікатней — аўтор беларускага зьместу часопісі „Слово" у № 26 — 31 г.

Ці-ж сапраўды каталіцкая Цэрква гэтак вучыць?—Не, такая навука існуе толькі ў галаве нашых няпрыхільнікаў. Усесьветная, або йнакш — каталіцкая цэрква ніколі так ня

вучыла і ня вучыць, ніколі Папу рымскага замест Хрыста ня ставіла. Каб лепей выказаць беспадстаўнасьць гэтай выдумкі, прадстаўлю тут у кароткіх словах навуку нашу аб Галаве Цэрквы.

Цэрква Хрыстова, як грамада веручых, прыраўноўваецца да жывога арганізму чалавека, да цела Хрыстовага: „І вы цела Хрыстова, а паасобку — члены“ (I Кар. 12, 27). Як ня можа быць жывы арганізм без галавы, таксама і Цэрква Хрыстова, ня можа быць без Галавы яе, Хрыста. Хрыстос ёсьць Галава Цэрквы нашай, — вось наша выразная навука.

Хрыстос — Галава Цэрквы дзеля наступных прычын:

1) Праз Яго мы робімся ўчасьнікамі надпрыроднага жыцьця, Ён нам дае сваю ласку,

2) ад Яго выплывае ўся жыцьцёвая сіла, царкоўных пастыраў, з рымскім Папай на чале,

3) Ён адзіны найвышэйшы кіраўнік Цэрквы, — Папа, епіскапы і іншыя царкоўныя пастыры зьяўляюцца толькі прыладай, праз якую Хрыстос усім кіруе.

4) Ён яшчэ і таму называецца Галавой, што ёсьць нашым **важаком** і прыкладам.

Вось навука нашай каталіцкай Цэрквы. А тое, што мы, быццам, зусім Ісуса Хрыста не прызнаём за Галаву Ягонай Цэрквы, што замест Яго — паставілі Папу Рымскага, усё гэта простая выдумка.

Калі паводле вашай навукі — мо‘ скажаце — Ісус Хрыстос ёсьць Галава Цэрквы, дык чаму-ж вы называеце таксама Галавой Цэрквы Папу Рымскага?

На гэта пытаньне адкажу таксама пытаньнем: калі вы прызнаеце Ісуса Хрыста адзінай Галавой Цэрквы, дык чаму называеце Мітрапаліта Дзяніса ў Варшаве Галавой праваслаўнай Цэрквы ў Польшчы? На гэта пэўна можаце адказаць, што гэта не выключае і Ісуса Хрыста: Ён таксама зьяўляецца Галавой як усяе Цэрквы, таксама і Цэрквы ў Польшчы. Мітрапаліт Дзяніс называецца Галавой дзеля таго, што ён ёсьць незалежным кіраўнікам праваслаўнае Цэрквы ў Польшчы: другога такога кіраўніка ня толькі старшага, але нават роўнага Мітр. Дзянісу ў Польшчы няма. — Вось, мае дарагія браты нязлучаныя праваслаўныя, тое самае можна сказаць і аб Папе Рымскім. Толькі тая тут розьніца, што Папа Рымскі ёсьць кіраўніком усяе Царквы, Царквы усёсьветнае, а Мітрапаліт Дзяніс — толькі польскай нязлучанай праваслаўнай Царквы.

Цэрква ня можа абыйсьціся бяз вонкавага, відавочнага кіраўніцтва. Гэта ясна, бо яна складаецца з нас людзей, каторыя ня толькі ў душы, але таксама і вонкавым спосабам творым супольнасьць, адну рэлігійную арганізацыю, або Цэркву.

Здаецца гавару зусім ясна: Галавой нашай Цэрквы ёсьць Сам Ісус Хрыстос, а Папа Рымскі выпаўняе толькі волю Самога Хрыста. Хрыстос праз Папу кіруе Цэрквай. Папа зьяўляецца толькі Ягоным відзімым заступнікам, ёсьць прыладай у руках Хрыста.

Ёсьць яшчэ закід: *як можа грэшны чалавек быць заступнікам Божым? Гэта ж быць ня можа* —На гэта адкажу выразна, што можа быць і бывае. Напрыклад, калі сьвяшчэньнік адпраўляе Сьв. Літургію, ён зьяўляецца відзімым заступнікам Самога Госпада Бога, у Сьв. Літургіі Сам Ісус Хрыстос, праз не заўсёды сьвятога сьвяшчэньніка, прыносіць сябе ў жэртву Госпаду Богу Айцу.

Возьмем яшчэ прыклад: калі сьвяшчэньнік на споведзі адпушчае грахі, ці ён адпушчае іх моцаю ўласнаю? Не-Бог адпушчае праз чалавека грэшнага.

Вось таксама як сьвяшчэньнік зьяўляецца заступнікам Хрыста ў некаторых выпадках, таксама Папа Рымскі, як наступнік Сьв. Пётры, зьяўляецца відомым заступнікам Ісуса Хрыста, праз яго Сам Ісус Хрыстос кіруе сваею Цэрквaю ў цэлым царкоўным жыцьці.

Навука Каталіцкай Цэрквы зусім ясная. Ніхто іншы, як толькі Сам Ісус Хрыстос кіруе Цэрквай. Здаецца ня так цяжка гэта сьцяміць, а усё-ждыкі напэўна знойдуцца такія паміж нашых няпрыхільнікаў, што будуць заўсёды паўтараць: О, у нас Галавой Цэрквы Сам Ісус Хрыстос, а ў уніятаў — Папа Рымскі. Такі сказ можна назваць дэмагогіяй, што можна пераламыць на больш зразумелаю мову, — дурэньнем галавы. Несправядліва прыпісаваць злучаным праваслаўным уніятам тое, чаго яны ніколі ня вучылі і ня могуць вучыць. Можна толькі так паставіць пытаньне: вось маемо дзьве Цэрквы. Адна прызнае на свайго Галаву Мітрапаліта Дзяніса, каторы зьяўляецца кіраўнікам польскай праваслаўнай Цэрквы і жыве ў Варшаве, а другая мае свайго кіраўніка ў Рыме, Папу Пія XI, каторы зьяўляецца Галавой Цэрквы ўсесьветнай. Вось так можна паставіць пытаньне; кожны можа выбраць: пад чыё кіраўніцтва паддасца, да тае Цэрквы і будзе належаць.

Нязлучаныя праваслаўныя, выракаючыся аднае галавы для кіраваньня Цэрквай, паставілі на яе месца многа галоў, бо апрача патрыархаў, за апошнія часы пачалі паў-

ставаць новыя Цэрквы аўтокефальныя, самагаловыя. Аднэй з такіх самагаловых Цэркваў і ёсьць праваслаўная Цэрква ў Польшчы. Можна спадзяваца, што такіх аўтокефальных Цэркваў у хуткім часе будзе яшчэ больш. — Гэткая нясталасьць нязлучанай Цэрквы ня можа быць доказам ейнай здольнасьці быць прыстанішчам для душ шукаючых праўды.

*Злучэнец.*

---

# Хроніка.

## З рэлігійнага жыцьця.

**Прэасьвяшчэнны Уладыка Мікалай** Наш Прэасьвяшчэнны Ўладыка Мікалай на гэтых днях паехаў да Яго Сьвятасьці Папы Рымскага, каб здаць справаздачу з свае місіі і атрымаць інструкцыі на далейшую працу. Дзякаваць Богу, рух аб'яднаньня адлучаных нашых братоў праваслаўных крапчэе і вельмі добра пашыраецца.

**Духоўная Сэмінарыя ў Дубне** Нядаўна заложаная духоўная сэмінарыя для прыгатаўленьня сьвяшчэньнікаў усходня-славянскага абраду добра разьвіваецца: мае ўжо 19 чалавек маладых, гарачага сэрца сэмінарыстаў, каторыя будуць па сканчэньні сэмінарыі апосталамі аб'еднаньня адпаўшага ўсходу з Апостальскім Пасадам.

Зусім беспадстаўна ў некаторых польскіх газэтах распаўсюджывалі вестку, што ў дубненскай сэмінарыі ўсё вучаць парасейску. Гэта зусім беспадстаўная выдумка.

Сэмінарыя і царква пры ёй прыводзіцца паволі ў парадак. Усё трэба было пачынаць з пачатку: амаль што ня ўвесь будынак займалі жыхары з сямействамі; у царкве таксама нічога патрэбнага да Службы Божае ня было. Багаслужэньне цяпер адбываецца акуратна, людзей зьбіраецца многа, казаньні да іх гавора а. Рэктар А. Дуброўскі паўкраінску.

**Альбэртын**. У Альбэртыне каля Слоніма ёсьць галоўны дом Айцоў Таварыства Ісусавага ўсходня-славянскага абраду. Тут яны маюць навіцыят, праз каторы мусіць кожны прайсьці, хто жадае далучыцца да ліку Таварыства Ісусавага. Цяпер у навіцыяце ёсьць 18 чалавек. Настаўнікам навіцыяту ёсьць а. Піліп дэ Рэжі, а ўсім кляштарам і цэлай

усходняй галінай Таварыства ад 1925 году кіруе В. П. а. Протоігумен Уладзімер Піонткевіч.

Пры кляштары ў Альбэртыне ёсьць таксама парохія, каторая ўсё памалу павялічываецца. Напрыклад за месяц



Архірэйскае багаслужэньне ў Альбэртыне 5.VII.1931 г.

лістапад з нязлучаных праваслаўных сталіся злучанымі праваслаўнымі, або як іх называюць, вуніятамі — 15 душ.

У Альбэртыне таксама ёсьць рэдакцыя гэтай беларускай часопісі: „Да Злучэньня!“.

**Пратаіерэй Табінскі**, б. рэктар прав. дух. сэмінарыі ў Крэмянцы на Валыні, каторы нядаўна прылучыўся да ўсесьветнай Хрыстовай Цэрквы, выехаў у Рым.

**Грабовец.** На Холмшчыне старыя людзі йшчэ памятуюць вунію, бо ад скасаваньня яе прайшло толькі 56 гадоў. Цяпер там шмат нязлучаных праваслаўных хочуць злучыцца з Цэрквай каталіцкай усходня-славянскага абраду. Летась на Каляды адзін з айцоў Базыльянаў пасяліўся ў Горадлі над Бугам, мае там царкву і вядзе місыйную работу. За прыкладам Горадля пайшоў Грабовец і акалічныя вёскі. Мелі яны шмат труднасьцяў, каб атрымаць царкву забраную пад касьцёл і многа стараліся, каб мець свайго сьвяшчэньніка. Вельмі цешымся, што ўсе перашкоды пакананыя і тамашныя жыхары ўжо маюць сваю царкву і свайго сьвяшчэньніка ўсходня-славянскага абраду.



Выходзіць з дазволу духоўных уладаў.

Рэдактар а. АНТ. НЕМАНЦЭВІЧ.

